Любыя прыгажуні — маці і бабулі, жонкі і сяброўкі, суседкі і каляжанкі!
З надыходзячым святам 8 Сакавіка! Сонейка ў Вашы сэрцы! Шчасця!


№№37–38
(3576–3577)

6 сакавіка 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info


# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

### Сустрэнемся ў суботу

*У сувязі са святам 8 Сакавіка і зменамі ў працоўным графіку паліграфістаў, сувязістаў, транспартнікаў наступны выхад "Народнай Волі" чакайце не ў пятніцу, а ў суботу.*

**Рэдакцыя.**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# А нужна ли нам зарплата в 500 долларов?

## *Если после этого опять окажемся у пропасти*

Похоже, власти совсем запутались, решая головоломку, как довести к концу года среднюю зарплату трудящихся вновь до 500 долларов в эквиваленте, о чем заявили президент и премьер-министр. Одновременно нужно решить сто задач: снизить инфляцию до 19—22%, а еще лучше — до 15—16%, обеспечить прирост ВВП в пределах 5,5%, при этом без эмиссии необеспеченных денег, получить очередные кредитные транши Антикризисного фонда, несмотря на то что распорядители не спешат их предоставлять. И есть еще много других нюансов.

В декабре прошлого года средний белорус заработал всего 341 доллар в эквиваленте. Президент и премьер говорят о 500 долларах, а представители Минэкономики гнут совсем другое: прирост реальной зарплаты будет в 2012 году всего 4—4,2%. И то при обеспечении прироста производительности труда на 5,7%.

Подсчитанные Министерством экономики темпы роста никак не обеспечат вторую попытку выхода на заветный рубеж. Видите ли, официальная статистика отрапортовала о достижении положительного сальдо торгового баланса с начала года, но кто-то "забыл" учесть перечисленные в российский бюджет пошлины за экспортированные нефтепродукты. А это целых 3,1 млрд долларов!

Если увеличить зарплату бюджетникам, которых у нас треть от работающего населения, проще простого — повысил ставку первого разряда и потекли из казны денежки, то поднять заработки на многих предприятиях — задача посложнее. Здесь нужно улучшать финансовое состояние субъектов хозяйствования. А оно в ряде мест плачевное. Ведь не случайно прошла волна протестных выступлений рабочих на довольно заметных белорусских предприятиях. Как сообщали независимые СМИ, среднемесячная зарплата на станкостроительном заводе "Атлант" в Барановичах не дотягивала и до 2 миллионов рублей. Не лучшее положение дел с этим было до последнего времени и на Борисовском БАТЭ. Как прожить на такие деньги?

В знак протеста против низких зарплат вышли из официальных профсоюзов многие работники микашевичского "Гранита". Конфликт там тянется до сих пор.

Стыдно сказать, но на столичном "Интеграле" инженер 2-й категории получал в начале года 1,1—1,2 млн рублей. Нечем похвалиться и десяткам других предприятий.

В декабре 2011 года в Беларуси насчитывалось более полутора тысяч организаций, в которых среднемесячная зарплата составляла менее 1,5 млн рублей. Из этого числа в 104 организациях зарплата была ниже 1 млн рублей. Предприятий, где зарплата находилась в районе 1,5—2 млн рублей, насчитывалось около 10 тысяч. Стоит ли удивляться, почему из страны начался усиленный отток квалифицированных рабочих и специалистов. Это, естественно, заботит власти. Чтобы сбить волну недовольства, пообещаешь не только 500 долларов.

Хотя что такое 500 долларов при нынешних ценах? Вот у соседей цены на многие товары, продукты и услуги ниже, а заработки куда выше. Так, средняя зарплата в Польше составляет порядка 1300 долларов в эквиваленте, в странах Балтии и России — под 1000 долларов, в Казахстане — 600—700 долларов.

Но это у них, а нам бы — выжить.

Это в сказках все делается по мановению волшебной палочки, а в жизни каждый доллар, каждый рубль даются мозолем. Чтобы зарплата была заработанной, необходимо постоянно обеспечивать опережающий рост производительности труда, что практически никогда в нашей экономике не получалось. Если предприятия не в состоянии обеспечивать достойную зарплату своим работникам, нормальные условия труда, значит, они неэффективно управляются. Надо менять директорат или собственника. Надо их реформировать. Это же относится и ко всей белорусской экономике.

Даже многие чиновники признают, что с таким высоким физическим и моральным износом основных средств наших предприятий серьезно поднять уровень производительности труда в течение года — задача нереальная. Но надо же успокоить возмущенный трудовой люд! Выборы в парламент уже на носу. Посевная еще ближе. Как же велик соблазн снова включить верный печатный станок! А дальше — сценарий известный и проверенный. Поднимет голову притихшая было инфляция, растущая рублевая масса начнет давить на валютные курсы национальной денежной единицы и т. д. и т.п. Лучше не вспоминать...

По этому ли пути пойдут наши правители? Видимо, да.

Если это произойдет, то в недалеком будущем страну всколыхнет новый кризис. И еще больше приблизимся к пропасти.

ДЫПКУР'ЕР

## *Беларусь не ўдзельнічае ў сустрэчы міністраў МЗС краін «Усходняга партнёрства»*

Сустрэча міністраў замежных спраў краін "Усходняга партнёрства" і Вышаградскай групы адбываецца без прадстаўнікоў Беларусі. Напрыканцы лютага пасол па асобых даручэннях МЗС Чэхіі Петэр Марэш сказаў, што міністр замежных спраў Сяргей Мартынаў будзе запрошаны ў Прагу пры выкананні пэўных умоў. Пры гэтым ён не стаў удакладняць, а толькі паведаміў: "*Абодва бакі ведаюць, што трэба зрабіць, каб гэта адбылося*".

Ён адзначыў, што для Чэхіі важна, каб Беларусь працягвала свой удзел ва "Усходнім партнёрстве". Наконт адносін паміж Еўропай і Беларуссю Петэр Марэш заявіў: "*Выйсці з гэтага тупіка можна толькі намаганнямі двух бакоў, і нам здаецца, што наша рука для супрацоўніцтва ўжо працягнута, чакаем цяпер рукі Мінска*".

На цяперашнюю сустрэчу беларускі бок быў запрошаны на ўзроўні намесніка міністраў, але ніводны прадстаўнік МЗС у Прагу не прыехаў.

Прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Савіных патлумачыў: "*Мы прынялі рашэнне не прымаць удзелу ў дадзеным мерапрыемстве. Удавацца ў дэталі не маем намеру*".

На сустрэчы будзе прысутнічаць прадстаўнік ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан і еўракамісар Штэфан Фюле.

Пражская сустрэча міністраў МЗС краін "Усходняга партнёрства" адбываецца на фоне дыпламатычнага канфлікту паміж Мінскам і Брусселем.

**Любоў ЛУНЁВА.**

## *Ірына ХАЛІП: «Саннікаў даслаў ліст з двух радкоў...»*

Жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава Ірына Халіп атрымала ад мужа, які асуджаны на пяць гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму, кароткі ліст.

*"У цяперашняй сітуацыі лісты ад Андрэя — гэта самае радаснае, што можа быць,* — гаворыць Ірына Халіп. — *Такім чынам я даведваюся, што ён там, за кратамі, жывы. Апошні ліст ад яго прыйшоў напрыканцы мінулага тыдня. Там роўна два радкі. Саннікаў пытаецца пра сына. Вось і ўсё. Я не ведаю, ці атрымлівае ён нашы лісты, я ўвогуле мала што ведаю пра яго цяперашні стан за кратамі..."*

Па словах жонкі Андрэя Саннікава, адміністрацыя калоніі "Віцьба-3" устанавіла адмысловы графік для наведвання яго адвакатамі: *"Шкодзяць па дробнаму. Там, дзе могуць нашкодзіць, шкодзяць. Справа ў тым, што ў калоніі Андрэй Саннікаў працуе ў дзве змены — ён шые рукавіцы. Адзін тыдзень у першую змену, наступны — у другую. Дык вось, адвакат яго можа наведваць толькі тады, калі ў Саннікава першая змена. Яна прыпадае якраз на гэты тыдзень, таму заўтра адвакат паедзе ў калонію і будзе спрабаваць там сустрэцца з мужам".*

Адзначым, што паслязаўтра, 8 сакавіка, у Андрэя Саннікава Дзень народзінаў — яму спаўняецца 58 гадоў. На жаль, Ірына Халіп не зможа ў гэты дзень убачыць і павіншаваць мужа. Справа ў тым, што наступнае спатканне ёй дазволяць толькі ў маі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

## *Віталь КАВАЛЕНКА: «Брат заклікае беларусаў змагацца за сваю Радзіму і за нацыянальныя сімвалы...»*

Віцебскі актывіст КХП—БНФ Сяргей Каваленка, які асуджаны на 2 гады і адзін месяц калоніі, не збіраецца адмаўляцца ад галадоўкі.

Пра гэта паведаміла маці актывіста **Лідзія Каваленка.** Яна разам з іншым сынам Віталем учора наведала Сяргея ў Рэспубліканскім турэмным шпіталі ў Мінску.

*"Ён ледзь-ледзь прыйшоў на спатканне,* — гаворыць яна. — *Вельмі худы, слабы. Яму патрэбна неадкладная медыцынская дапамога ва ўмовах нармальнай бальніцы, турэмным дактарам ён не давярае..."*

Па словах Лідзіі Каваленка, Сяргей працягвае галадоўку, пратэстуючы супраць незаконнага, на яго думку, прысуду і патрабуючы пераводу ў звычайную бальніцу.

*"Ён сказаў, што будзе галадаць, пакуль не даб'ецца адмовы прыгавору,* — сказаў брат Сяргея Віталь. — *Ён сапраўды фізічна вельмі слабы, але маральна моцны, як ніколі. Сяргей перадаў словы падтрымкі ўсім, хто за яго перажывае, і заклікае беларусаў змагацца за сваю Радзіму і за нацыянальныя сімвалы".*

**Антон ВІТАЛЬЕЎ.**

## *Марына АДАМОВІЧ: «Напісаць прашэнне аб памілаванні ад Статкевіча ўжо не патрабуюць»*

*Жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты Мікалая Статкевіча атрымала ад мужа адразу два лісты.*

"Мікалай трымаецца, піша, што ў яго усё добра, — *расказвае Марына Адамовіч.* — У турме ён падтрымлівае фізічную форму, чытае. Дамоў Мікола з турмы не званіў — гэта з калоніі можна было тэарэтычна рэгулярна званіць, а з магілёўскай турмы, дзе ён знаходзіцца зараз, званіць можна толькі з дазволу адміністрацыі ў крайніх выпадках, калі, не дай Бог, нешта здарыцца...

Прыкра тое, што яму нельга перадаць нейкую пасылку. Дакладней можна, але толькі раз на год, і то бандэроль павінна быць не цяжэйшая за 2 кілаграмы. Такія ў нас законы...

Пісаць прашэнне на імя Лукашэнкі Мікалай не збіраецца, ды і зараз ад яго гэтага не патрабуюць. У мяне складваецца такое ўражанне, што яго наўмысна перавялі з калоніі ў турму, каб зрабіць яго жыццё яшчэ больш невыносным. Гэта помста за нязломнасць, для мяне гэта відавочна..."

АКТУАЛИИ



*Светлана КАЛИНКИНА*

# Глухие согласные

В России прошли президентские выборы. Кто-то рад за Путина, кто-то насылает на его голову проклятья, а мне стыдно. Стыдно за нас, белорусов, которых власть свела до уровня глухих согласных. Запуганных, забитых, молчащих, терпящих... До уровня ничего не решающих, до уровня абсолютно зависимых, до уровня тихих приспособленцев. На фоне соседей, которые, в отличие от нас, помнят, что в своей стране имеют не только обязанности, но и права, в том числе право выбирать власть, это особенно заметно.

Многие мои российские знакомые на последних выборах президента были не только избирателями, но и наблюдателями. Причем у них свой подсчет голосов. Но главное даже не процент голосов (у наблюдателей от оппозиции и у ЦИК цифры разные), главное в том, что российская власть сделала все возможное, чтобы люди поверили в легитимность выборов.

По интернет-трансляции, организованной с каждого участка через сайт "ВЕБ-выборы", каждый желающий россиянин мог увидеть, как идет голосование в каком-нибудь горном чеченском селе или в республике Саха-Якутия, как голосуют Москва и Питер. Лично я по интернету видела сосредоточенные лица своих друзей, слала им шутливые СМС-ки, а они в ответ могли помахать мне рукой на камеру. Я видела урны для голосования (в подавляющем большинстве прозрачные), видела людей в избирательных комиссиях, из Минска я даже слышала, какая музыка играет на участках и о чем говорят присутствующие. Изображение шло на экраны компьютеров с задержкой в 2—3 минуты, то есть любой желающий мог следить за происходящим на любом избирательном участке от момента его открытия и до запечатывания бюллетеней после их подсчета.

Только один раз у меня закралось подозрение, что такая открытость и прозрачность являлась некой имитацией — когда в 20.00 в европейской части России закрылись участки и начался подсчет голосов, вырубилась и видеотрансляция. Подумалось, что дальше все случится, как у нас: пока идет голосование — все чинно-важно, но как только начинается подсчет голосов, то в круговую оборону на защиту бюллетеней от посторонних глаз встает вся система.

Однако нет. Ровно в 21.00, как только закончились выборы в Калининграде, с участков по всей России возобновилась трансляция подсчета голосов. Причем продолжилась ровно с точки остановки, без какого-либо перерыва в записи.

Сидя дома, я видела, как наблюдатели в какой-то сельской школе требуют пересчета голосов, и комиссия начинает пересчитывать. Я видела, как за спинами членов комиссий, считающих бюллетени, стоят люди со своими портативными видеокамерами и записывают все происходящее для истории. Причем этих людей не только не гоняют, а, наоборот, переспрашивают, хорошо ли наблюдателю видно. Я видела, как председатель комиссии перелистывает стопки бюллетеней, чтобы каждый желающий мог убедиться, что голоса за Путина не отдали Зюганову и наоборот... Одним словом, я видела, что в России проходили выборы. Что бюллетени и голоса на самом деле считали. Что российской власти это было важно.

Нам, из Минска, такое кажется невероятным. В условиях Беларуси о подобном приходится только мечтать. Чтобы наши избиркомы, став лицом к наблюдателям, под видеокамеры показывали каждый бюллетень и громко, четко, внятно оглашали итоги своих подсчетов, а если надо — еще и пересчитывали по требованию сомневающихся — это нечто из области фантастики. Нашим избирательным комиссиям наблюдатели мешают. Наши становятся к людям спиной, плечом к плечу, голова к голове, чтобы никакой посторонний взгляд эту "живую стену" не пробил. А потом что-то шепчут друг другу на ушко или показывают итоги своих подсчетов на бумажках, бегают кому-то звонить, советуются, сверяются, долго что-то пересчитывают на калькуляторе... А потом громко объявляют: "Выборы прошли честно, открыто, гласно! А кто не верит — тот враг народа и президента".

Как же все это стыдно! И за нас стыдно, что такое позволили. И за власть стыдно: настолько примитивно и грубо она имитирует народную поддержку, что это уже никого не обманывает и, наоборот, вызывает брезгливость.

Следя за российскими выборами из Минска, я вдруг поняла, что эта брезгливость объединила и Владимира Путина, и тех моих российских друзей, которые его кандидатуру совсем не поддерживали. Мне кажется очевидным, что и российская власть, и российская оппозиция в этот раз сделали все возможное, чтобы события не пошли по белорусскому сценарию. И я не исключаю, что во время своей победной речи на Манежной площади Путин не смог сдержать слез как раз потому, что в тот момент понял: судьбы Лукашенко ему удалось избежать. Он выиграл на выборах. Он сделал то, о чем даже боится думать его белорусский коллега: победил, не задействовав силовой ресурс. Победил без крови и арестов.

Владимир Путин позволил считать голоса. И это в прямом эфире мог видеть любой желающий. А ведь большинство "вечных президентов" — тех, которые на просторах СНГ рвут на себе рубашку и пытаются всех убедить, что их не отпускает народ, — от одной только мысли, что такое предстоит, обделались бы от ужаса.

Россия не стала повторять "элегантных побед" минского образца, в которые никто не верит. И все равно в понедельник вечером мои друзья вышли на митинг протеста. Они не считают, что прошедшие выборы были честными и справедливыми. Они не считают, что должны смириться и затихнуть на ближайшие шесть лет. Они не намерены молчать.

— А смысл? — интересовалась я. — Со времен первой победы Ельцина таких выборов в России просто не было. Да, были вбросы, "карусели", административный ресурс, "мертвые души", но даже независимые экзит-пулы и альтернативный подсчет протоколов с участков все-таки подтверждают, что Путин с меньшим процентом, чем официально объявлено, но все-таки выиграл в первом туре. Чего вы протестуете? Чего вы добиваетесь?

— Чтобы власть нас уважала, чтобы помнила, что мы есть. России нужны политические реформы. И Путин должен видеть, что недовольные не успокоятся, что на реформы придется идти. Михаил Прохоров в крупных городах стал политиком номер два — это тоже показатель. Выставив Прохорова, они думали, что россияне никогда не проголосуют за миллиардера, а вот взяли и проголосовали. Они должны видеть и помнить, что Россия стала другой. Жириновский ушел в отстой, Зюганов сдулся, Путин еле-еле наскреб голоса... То есть нет в обществе запроса на закручивание гаек, зато есть запрос на нормальную жизнь. Вот поэтому у нас проходят митинги. И будут проходить, хотя штурмом брать Кремль никто не собирается...

А мы с вами ходили на такие митинги? Не только на День Воли или на "Чарнобыльскі Шлях", но и с требованием изменений Избирательного кодекса, закона о политических партиях, закона о СМИ, о собраниях и митингах?.. Наша оппозиция думала о безопасности людей, добиваясь разрешения на проведение той или иной акции, заботилась тем, чтобы не подставлять мирных граждан под дубинки ОМОНа?.. Какое требование к власти сформулировали мы, кроме требования к Лукашенко: "Уходи!"?..

Российское руководство, оценив белорусский опыт, сделало свои выводы. Но, надо признать, что белорусская оппозиция, проанализировав действия российских коллег, тоже должна провести работу над ошибками.

Да, у нас нет Прохорова. Да, у нас к среднему классу относят себя люди с зарплатой в 300 долларов, потому что мы даже сами себе стыдимся признаться в том, что стали нищими. Да, в России не было того катка, которым зачищено белорусское политическое поле, и там ни одного кандидата в президенты никогда не садили в тюрьму. Но...

Наша власть не щадила людей, но и наша оппозиция их не щадила. Белорусские политические кампании обе стороны — и власть, и оппозиция — строили по брутальным сценариям: стенка на стенку. Вот так и получилось, что по политическому устройству мы сегодня приближаемся к африканским деспотиям. Даже от России отстали! Горько это, потому что давно могли жить, как люди. И стыдно.

ПАД ГРАДУСАМ

# Зіма пакуль не адступае

*У сераду па поўначы пахаладае да мінус 17°С, а 8 сакавіка будзе да мінус 22°С.*

На гэтым тыдні ў Беларусі захаваецца пераважна зімовы характар надвор'я. Характар надвор'я будзе вызначаць скандынаўскі антыцыклон, сфарміраваны ў халодным арктычным паветры. Сярэдняя тэмпература паветра чакаецца на 2—3°С ніжэй за кліматычную норму.

Першую палову тыдня Беларусь будзе знаходзіцца на паўднёва-ўсходняй перыферыі цыклону, таму месцамі чакаецца невялікі снег, тэмпература паветра **ў аўторак** ноччу мінус 5—12°С, пры праясненнях мінус 13—15°С, днём 0°С — мінус 7°С.

**У сераду** ноччу чакаецца мінус 6—13°С, па поўначы мінус 14—17°С, днём 0°С — мінус 7°С, па паўднёвым захадзе плюс 1—3°С.

Пачынаючы **з чацвярга** антыцыклон узмоцніць свой уплыў, і 8 сакавіка ноччу чакаецца мінус 6—13°С, па паўночна-ўсходняй палове мінус 14—20°С, пры праясненнях да мінус 22°С. Днём 0°С — мінус 7°С, па паўднёвым захадзе плюс 1—3°С.

**У пятніцу** таксама чакаецца пераважна без ападкаў, толькі днём у крайніх заходніх раёнах, куды ідзе атмасферны фронт з Еўропы, чакаецца кароткачасовы снег. Тэмпература паветра ноччу мінус 10—17°С,

пры праясненнях мінус 18—22°С, днём 0°С — мінус 5°С. Па паўднёвым захадзе ноччу мінус 4—9°С, днём плюс 1—4°С.

**У суботу** на тэрыторыю Беларусі паступова пачне паступаць больш цёплае атлантычнае паветра. Ноччу тэмпература паветра мінус 2—9°С, па ўсходзе мінус 10—17°С. Днём ад мінус 4°С па ўсходзе да плюс 4°С па захадзе. Пры гэтым ноччу месцамі, а днём на большай частцы тэрыторыі чакаецца кароткачасовы снег.

**У нядзелю** больш цёплае паветра распаўсюдзіцца на большую частку тэрыторыі Беларусі. Ноччу чакаецца мінус 4°С — плюс 3°С, днём мінус 1°С — плюс 6°С. Прагназуюцца ападкі ў выглядзе мокрага снегу і дажджу, месцамі галалёд, ноччу і раніцай на дарогах галалёдзіца.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

*Эдуард ЗАНКАВЕЦ:*

# «У такіх матчах патрэбны характар»

## *Хакейнае мінскае "Дынама" са свістам праляцела ўжо ў першым раўндзе плэй-оф Кубка Гагарына.*

"Зубры" прайгралі ўсе чатыры матчы маскоўскім аднаклубнікам: два — на чужой пляцоўцы, столькі ж — у Бабруйску. Галоўны трэнер мінскага "Дынама" **Марэк Сікора** адразу ж пасля гэтага заявіў, што пакідае сваю пасаду: *"Я не выканаў задачу, якая перада мной стаяла. Так што адчуваю адказнасць за вынік. Я заканчваю як трэнер. Не толькі ў мінскім „Дынама", а наогул. Сёння быў мой апошні матч".*

Дарэчы, у наступны раўнд плэй-оф выйшаў омскі "Авангард", які таксама чатыры разы запар выйграў у хабараўскага "Амура". А памочнікам галоўнага трэнера ў "Авангардзе" працуе былы настаўнік зборнай Беларусі **Эдуард Занкавец**.

— Калі каманда выйграе ў серыі з лікам 4:0, то гэта яшчэ не азначае, што тыя, хто прайграў, такія ўжо і слабыя, — распавёў ён "Народнай Волі" пасля пераможнага матча. — Ва ўсялякім разе для нас ніводная гульня лёгкай не была. Не буду судзіць мінскіх дынамаўцаў, адзначу толькі, што многае ў такіх матчах вырашае характар. Відаць, нешта і недзе ў беларускай каманды не склалася...

**Алесь СІВЫ.**




**Марэк СІКОРА:** *"Мы не прабіліся ў другі раўнд плэй-оф, ды і ў першым саступілі з жорсткім лікам 0:4. Таму я прыняў рашэнне аб завяршэнні трэнерскай кар'еры. Не толькі ў "Дынама", але і ўвогуле".*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
6 САКАВІКА 2012 г.

РАЎБІЧСКАЯ РЭХА

# Шоу-лыжня

*Штогод у Раўбічах прэзідэнцкая раць наладжвае так званую "Мінскую лыжню". Быццам бы свята лыжнага спорту. Быццам бы папулярызацыя здаровага ладу жыцця. Быццам бы дэманстрацыя еднасці чыноўніцкага класа (ёсць у нас такі, зачасаны пад вертыкаль) з народам. І, канечне, у авангардзе ўсяго дзейства — прэзідэнт і яго каманда... Маўляў, мы самая здаровая і правільная частка грамадства, значыцца, раўняйцеся на нас, рабіце, як мы, і ўсё ў нас будзе ціп-топ...*

*Кожны раз, калі прыязджаеш на "Мінскую лыжню", апаноўвае адчуванне дэжавю: недзе і некалі такое ўжо бачыў... Канечне, бачыў! У камуністычна-застойныя часы, калі на розныя першамаі і рэвалюцыйныя святы народу ўручалі сцягі-транспаранты і пёрлі дэманстраваць (немаведама каму) непарушную еднасць "партыі з народам". Цяпер, праўда, ідуць не пехам, цяпер народ вязуць у аўтобусах — ці то як турыстаў, ці то як фанаў-балельшчыкаў, ці проста як гавяду на выпас. І мусяць ехаць, бо калі закапыціш, то мецьмеш непрыемнасці ад ідэолага-наглядчыка. Некалі за ўсім сачылі партыйныя сакратары, цяпер — ідэолагі. Розніцы, па сутнасці, аніякай, бо першыя абслугоўвалі і цяперашнія слугуюць усё той жа ўладзе, якая нібыта ў нас... народная. Праўда, сам народ ахрысціў з'яву-унікум даволі трапна і абсалютна дакладна — ПАКАЗУХА!*

*Але цяперашняя паказуха больш цынічная, паколькі каштуе большых грошай. Прычым фінансуецца не з якой-небудзь партыйнай касы, а з народнай кішэні. І "Мінская лыжня" падаецца ў гэтым сэнсе ледзь не ўзорам...*



Ад самага ранку ў Раўбічы (было ў нядзелю) цугам пацягнуліся аўтобусы — з Мінска, іншых гарадоў ды весяў блакітнавокай Беларусі. Вышнураваліся ўздоўж абочыны аж ад самае Аколіцы — гэта больш за кіламетр да лыжнага спарткомплексу. І было іх столькі, што і не палічыш: можа, паўсотня, а мо і ўся сотня ці болей. Карацей, вельмі шмат. Калі хто прыпёрся на сваім аўто, то прыйшлося ладкаваць жалезнага каня чорт ведае дзе... Да стадыёна, як і заведзена ў нас, прапускалі "лепшую" частку народа — высокапастаўленых чыноўнікаў з іх членавозамі. І падумалася міжволі: гэта ж колькі "гаручкі", працагадзін і згубленага вольнага часу змарнавана, каб прадэманстраваць, якая ў нас лыжная нацыя!..

Да стадыёна валакліся пешкі. Некаторыя не міналі (сам назіраў) раўбіцкую прадуктовую краму і атаварваліся там "гарачым" пітвом. Трое хлапцоў проста на маіх вачах завярнулі ў двор і на вачах у гаспадара лёгка асушылі паўлітровец. Але (што праўда, тое не хлусня) на самой "Мінскай лыжні" ніводнага "пад мухай" не было. Умеюць жэўжыкі!..

Ну вось, нарэшце, і стадыён... На ўваходзе чорныя "рамкі" і спецыяльна прызначаныя людзі: усіх, значыцца, праз тыя рамкі прапускаюць ды яшчэ абмацаюць, каб, барані Божа, нічога такога ў кішэнях. Прыстройваюся паміж балельшчыкамі, на сцягах якіх лунаюць знаёмыя брэндавыя словы — "Крыніца" і "Слодыч". Пытаюся ў дзяўчат, добраахвотна ці пад прымусам сюды прыехалі. Хлопцы рагочуць, дзяўчаты пасміхаюцца: маўляў, а то не ведаеш, дзядзечка... Адна далікатна, па-дыпламатычнаму, ледзь не шэптам так і кажа: ***"У нас усё робіцца на добраахвотна-прымусовых пачатках; калі не хочаш праблем на рабоце, то мусіш і лыжы палюбіць..."***

Тым часам балельшчыкі з Маторнага завода выкрыкваюць нешта сваё, бадзёрачы ўсю калону. Ля саміх рамак таўпень, але не бурчаць — прыкмета часу... Ахоўнікі-прапускальнікі, ведай сабе, шныраць па вопратках, праслухваюць сваімі электроннымі шукальнікамі з ног да галавы. Кінулася ў вочы, што міліцыянтаў — пачынаючы з даішнікаў на кожным рагу і заканчваючы людзьмі ў цывільна-чорным з рацыямі — як гнілых падалак пад старой яблыняй... Куды ні плюнь, трапіш у такога "непрыкметна-замаскіраванага". Зноўку падумаў: не бясплатна ж яны тут стаяць, усе фінансавыя выдаткі на нашу галаву.

А якая незлічоная абслуга была задзейнічана! Траса, стадыён, уся навакольная тэрыторыя рыхтаваліся мо за тыдзень. Прывезлі і аркестр, і салдацкую кашу. Кажуць, аж не адну тону.

Але во і сам стадыён, трыбуны... Аднекуль грыміць бравурная музыка, голас Навіцкага... Усё нешта заклікае, падбадзёрвае, ажно да хрыпаты даходзіць — не каментатар, а проста нейкі шоумен ці які дзіджэй...

Яшчэ кінулася, што трыбуны з балельшчыкамі настолькі далёка ад лыжных трас, што не разбярэш — дзе той старт, а дзе фініш. Адзін знаёмы журналіст з дзяржаўнай газеты і кажа: стадыён гэты па ўсіх параметрах не адпавядае патрабаванням міжнароднай лыжнай федэрацыі, трыбуны далёка, стрэльбішча ніякае, для каментатараў ніякіх нармальных кабін... Але вернемся да "сваіх бараноў". Дык вось, на кожным кроку — чалавек з рацыяй і ў чорным. Фатаграфаваць вядомую асобу — ні-ні! Зробіш крок за чырвоную стужку ці плоцік, каб, значыцца, "зафотаць" лідара нацыі — асадзі назад! Адзін такі хлопец у чорнай шапачцы як прыліп да мяне ад самага пачатку, так і хадзіў па слядах. І ўсё пагрозліва даймаў: зараз нельга фатаграфаваць, а цяпер можна... Затое якая лахва прылашчанай брацыі — і "фотай" з любой пазіцыі, і тусуйся сярод "генерал-губернатараў" ды розных іншых там стаераў і спрынтараў.

Але вернемся да саміх гонак. Гэтым разам, як высветлілася, было істотнае новаўвядзенне ў раскладзе спаборніцтваў. Цяпер каманда Аляксандра Рыгоравіча выступала як бы па-за конкурсам, то бок не змагалася на роўных з астатнімі камандамі. Выступіла, так бы мовіць, не то з паказальным нумарам, не то дзеля захавання прэстыжу спартыўнага мерапрыемства? А можа, проста надакучыла Аляксандру Рыгоравічу кожны раз перамагаць усіх - прыядаюцца, бывае, і перамогі, асабліва ж так па-дзівацку зладжаныя. Тым не менш многіх цікавіла (ва ўсялякім разе тых, хто прыехаў не адно піва папіць ды шашлыком закусіць), хто ж пераможа ў лыжнай эстафеце два з паловаю на брата. Ну, дзесяць кіламетраў на чатырох ганцоў з кожнай вобласці... Спачатку ў лідары выбіліся падначаленыя Барыса Батуры, губернатара сталічнай вобласці. Такую, значыцца, фору паднеслі трое эстафетнікаў свайму босу, што яму заставалася адно — не ўпасці на трасе — і перамога, лічы, у кішэні. Сказаць праўду, я так перажываў за нашу Мінскую "губерню" ў асобе спадара Батуры, што ледзьве не страціў прытомнасць... Ад нервовасці нават цыгарэту запаліў. Але ўсё дарэмна: на апошнім этапе эстафеты Барыс Батура перакрэсліў усе мае надзеі... Нават шкада стала гэтага чалавека, бачачы, як ён ледзьве слізгае тымі лыжамі па снезе. Яно, канечне, відаць, што чалавек і з характарам, з сілаю волі... Але што зробіш, калі дыхалка ўжо не маладзецкая і ногі нібы з ваты?.. Карацей, сталічная вобласць, то бок лыжная яе каманда, абрынулася ў выніку з лідарства ажно... на трэцяе места.

А першае, як і прадбачылі лыжнёвыя спяцы, заняў Канстанцін Сумар ("губернатар" Брэсцкай вобласці) і ягоная каманда. Кажуць, ён змалку сябруе з лыжамі і наогул займаецца спортам не дзеля праформы, а дзеля здароўечка. Магілёўскія нібыта занялі другое месца, а чацвёртае дасталося віцебскім мальцам...

Пакуль спаборнічалі сілавікі, узнагароджвалі абласных зборнікаў... З тае прычыны, што цяпер каманда Аляксандра Рыгоравіча выступіла па-за конкурсам, то ўсе лаўры дасталіся брэсцкім чыноўнікам і іх хлопцам. Натуральна, уручаў кубкі, медалі і заплечнікі з падарункамі сам прэзідэнт. І вось тут якраз і здарылася алаверды... У перакладзе з арабскай (калі хто не ведае) слова "алаверды"перакладаецца так: allah — гэта па-нашаму Бог, а другая частка Verdi — даў. Так і атрымалася: спачатку Бог даў, а пасля ўжо Богу аддзячылі... Паіншаму кажучы, спадар Сумар ад імя ўсіх ганцоў выказаў свайму прэзідэнту падзяку, бо той вельмі ўжо моцна апякуецца фізкультурай і спортам, а пасля яшчэ падарунак уручыў. Яго клапатлівы бацька адразу перадаў свайму малодшанькаму — Колі...

На тым усё, бадай, і закончылася. Народ паціху стаў разыходзіцца: зразумець можна, бо каму якая радасць, хто з тых сілавікоў прымчаў на фініш першым...

На выхадзе са стадыёна, канечне, перасоўныя карчомкі, пітво ды і розны іншы дробны гандаль. Але ўвагу маю прыцягнуў разгорнуты шацёр са спартыўным інвентаром: лыжы, чаравікі, санкі, спартыўная вопратка... Паўгадзіны пратырчэў ля імправізаванага магазіна спартыўнай амуніцыі, спадзеючыся, што нехта хоць нешта купіць. Дарэмна. Людзі праходзілі міма, а калі хто і прыпыняўся, то дзеля аднаго — падзівіцца на цэннікі... Вось табе і масавы спорт, вось табе і ўсенародная любоў да лыж...

**Георгій ЧЫГІР.**

### P.S.

Не паспеў паставіць кропку, як патэлефанаваў сябра:

— Ну што, на "Дажынках" учора быў?

— Якіх "Дажынках"?

— Лыжных.

І са злосцю:

— Гэта ж трэба, столькі ўбухалі дзяржаўных грошыкаў!.. Звязі з усіх абласцей, накармі, развязі. Не на ўласных аўто ехалі ж тыя дэлегацыі на чале з "губернатарамі"?

І тут я ўзгадаў кадры, паказаныя па БТ напярэдадні "Лыжні". Дзве прыгожанькія дзяўчыны, здаецца, з Оршы, хваліліся, што іх з прадпрыемства накіравалі ў Раўбічы за некалькі дзён да спаборніцтваў, каб яны асвоілі трасу, патрэніраваліся. Вядома ж, усе расходы — не за свой кошт.

А ў гэты час недзе ў аддалёных вёсках сядзелі на печах дзеці бедных бацькоў і марылі пра тое, калі ў іх усё ж такі з'явяцца лыжы з поўнай амуніцыяй.

ПАЛІТКУХНЯ

## Вольга БАНДАРЭНКА: «На датэрміновае вызваленне муж не разлічвае»

*Пра гэта "Народнай Волі" паведаміла жонка палітыка, які адбывае двухгадовы тэрмін зняволення ў магілёўскай калоніі.*

"Самае балючае пытанне для мяне — стан здароўя мужа за кратамі, — *гаворыць Вольга Бандарэнка*. — Апошні раз ён тэлефанаваў 27 лютага, сказаў, што яму цяжка сядзець, стаяць, хадзіць...

У сваіх лістах Дзмітрый не піша пра палітыку, расказвае толькі пра стан свайго здароўя.

Адзінае, што ведаю дакладна, Дзмітрый не разлічвае на датэрміновае вызваленне, ён настройваецца адбыць увесь тэрмін. Іншая справа, як яму пасля аперацыі на пазваночніку і з ншымі праблемамі са здароўем даецца там кожны дзень..."

Калі вярстаўся нумар, стала вядома, што медыцынска-экспертная камісія прыняла рашэнне: інваліднасць Бандарэнку не даваць.

**Кастусь ЛІПСКІ.**

## ...Нават пад расстрэлам

Не, Павел Севярынец, які адбывае трохгадовае пакаранне на "хіміі", не сабатуе працу, але ён адмаўляецца працаваць у нядзелю 11 сакавіка. Як вядома, перанос працоўнага дня з 9 на 11 сакавіка замацаваны ўказам кіраўніка дзяржавы.

Павел Севярынец як шчыры вернік збіраецца прысвяціць нядзельны дзень малітве і наведванню царквы. Зараз Павел Севярынец спрабуе дамовіцца з адміністрацыяй спецкамендатуры аб пераносе працоўнага дня асабіста для яго з нядзелі на бліжэйшую пятніцу: *"Спадзяюся, удасца дамовіцца і адпрацаваць 9 сакавіка замест 11-га. Хоць пад расстрэлам, а 11 сакавіка не буду працаваць, гэта адназначна"*.

**Ігар КУЛЬБІЦКІ.**

БОЛЬ

## Анатоль ВЯРЦІНСКІ
## Сага пра белае з чырвоным



**У 20-х чыслах лютага ў горадзе над Дзвіной і Віцьбай, родным горадзе легендарнага Мірона, адбылася падзея, якую інакш як знакавай, як сімвалічнай не назавеш. Так, менавіта сімвалічнай нават у літаральным сэнсе гэтага слова, бо гаворка ішла якраз праз адзін з нашых галоўных нацыянальных сімвалаў, пра бел-чырвона-белы сцяг. Фармальна падзея называлася судом, і судзілі як быццам бы за нейкае парушэнне закона, а па сутнасці — судзілі земляка і саратніка Мірона, віцябчаніна Сяргея Каваленку за бел-чырвона-белы сцяг, судзілі, як злачынцу, сам сцяг гэты шматпакутны. Таму і суд быў падобны не столькі на звычайны юрыдычны разбор, колькі на своеасаблівую бітву. Са схуднелым, знясіленым фізічна, але адчайна-самаахвярным, нязломным духоўна падсудным, галашэннем маці, крыкам жонкі і плачам сямімесячнай дачкі, з выклікам "хуткай дапамогі", з мноствам так званых сілавікоў у форме і ў цывільным, з вывешанымі ноччу на вуліцах горада гэтымі самымі бел-чырвона-белымі сцягамі... Сапраўды бітва. За святы сімвал, за праўду, за справядлівасць.**

**Тут міжволі задумаешся. Хто б ты ні быў — патрыёт-рамантык, патрыёт-рэаліст ці патрыёт-скептык, — а задумаешся яшчэ раз, задашся пытаннямі ды звернешся зноў да гістарычнага досведу, звязанага з паходжаннем і значэннем нацыянальных і дзяржаўных сімвалаў.**

**Слынны Адраджэнец, ініцыятар абвяшчэння незалежнасці БНР Антон Луцкевіч зазначыў: "Белы кужаль, на ім тонкая палоска крыві — гэта сцяг паняволенае Беларусі". А за некалькі гадоў да гэтага, у 1911 годзе, у маскоўскай "печатни С.П.Яковлева" (была такая друкарня) пабачыла свет брашура захавальніка Зброевай палаты (хранителя Оружейной палаты) В.К.Трутоўскага з наступнай характэрнай назвай: "К вопросу о русских национальных цветах и о типе государственного знамени России". "Как известно, — піша аўтар, — в настоящее время особая правительственная комиссия под председательством товарища министра юстиции А.Н.Веревкина работает по вопросу о наших национальных цветах. Вызвано было образование этой комиссии, очевидно, ввиду существующего крупного разногласия в этом вопросе — в теории и практике". І далей: "По слухам, комиссии поручено установить путем исторических изысканий, какие же цвета должны составлять наш флаг и быть национальными. Кроме того, по тем же слухам, ей даны указания о желательности выработать также тип нашего государственного знамени, которое, будучи раз создано, оставалось бы навсегда нашим знаменем, без переделки или возобновления его при каждом новом царствовании".**

**Захавальнік Зброевай палаты (тут, па яго словах, захоўваюцца чатыры розныя сцягі) грунтоўна, унікліва, нават скрупулёзна даследуе праблему, аргументавана даказвае, чаму чорны, жоўты, а тым болей "цареградский, то есть восточный, зеленый" колеры не могуць прэтэндаваць на значэнне нацыянальна-дзяржаўных ("Не находят себе достаточно подтверждений из истории жизни и духа русского народа") і чаму на гэта могуць па праву прэтэндаваць у спалучэнні колеры — чырвоны, сіні і белы. Таму што "эти три цвета, в порядке — красный, синий, белый, — расскажут нам всю нашу историю, покажут нам корень земли русской, ее увенчанную вершину, ее православие. Таков должен быть, по-моему, наш национальный флаг".**

**Характэрны момант. Аддаючы належнае беламу колеру, яго "очевидной роли в русской истории", аўтар трактата тройчы ўпамінае Беларусь, спасылаецца на беларускі нацыянальны досвед. "Шитье белым по белому было самое излюбленное, — піша ён. — Этнографически мы видим белый цвет в мужских и женских костюмах в Белоруссии". Высокапастаўлены царскі чыноўнік называе "Смоленск Белоруссию" адным з "цэнтраў", адной з "трех точек опоры, на которых создалась русская земля, русское, то есть славяно-русское, государство", але што тычыцца "суверэннага" белага колеру, то ён мае, безумоўна, рацыю. Белы колер, белыя валакно і палатно, белы кужаль, белыя строі... Сапраўды народны колер. Яго славяць песняры. Менавіта белы колер дамінуе ў каляровай і светлавой эстэтыцы мовы твораў Якуба Коласа. Яму прысвячае ўзнёслыя радкі Янка Купала ("За кросны ненаглядны сесці трэ' было ядваб — кужаль бялюткі ткаць..."). "Ішлі босымі нагамі, з непакрытымі галовамі, і былі адзеты ў белы кужаль" Хрыстос з апосталамі ў творы Максіма Багдановіча. Белы кужаль з захапленнем апявае Ларыса Геніюш.**

*Будзе кужаль за снег той бялей,*
*Пояс узорны, як межанька наша,*
*Пазірацьмуць людзі ў сяле,*
*Калі мілы яго падпаяша.*

**(Доказ ад зваротнага: цяжка ўявіць, каб мілы Ясь касіў канюшыну, падперазаны зялёным "кушаком".)**

**Дадасца ў часе да гэтага, белага як снег, як цвет кужалю, чырвань, тонкая палоска крыві, — і з'явіцца на свет белы, ужо не "этнаграфічна", а палітычна, наш нацыянальны сімвал. І ў сваю чаргу будзе натхнёна праслаўляцца ў вершах і песнях.**

*Няхай жыве магутны, смелы*
*Наш беларускі вольны дух,*
*Штандар наш бел-чырвона-белы*
*Пакрый сабой народны дух.*

**Гэта радкі з ваярскага гімна Краўцова і Тэраўскага "Мы выйдзем шчыльнымі радамі", які спрабаваў заспяваць саслаблым голасам у судовай клетцы Сяргей Каваленка. Выкажам спадзяванне, што ён усё ж вытрымае, выжыве, не памрэ за кратамі і рана ці позна, у новых абставінах, ён будзе спяваць разам з іншымі гімн на поўны голас і са штандарам у руках, дзеля якога пайшоў на Галгофу.**

ВІЗІТ

## З чым да нас едзе Мікалай Азараў?

*22—23 сакавіка Беларусь наведае ўкраінскі прэм'ер-міністр Мікалай Азараў.*

Праграма візіту яшчэ праапрацоўваецца.

*"Пакуль магу сказаць толькі агульныя словы: падчас візіту будуць абмеркаваны пытанні развіцця двухбаковых адносін Беларусі і Украіны, а таксама некаторыя эканамічныя пытанні"*, — сказаў прэс-аташэ амбасады Украіны **Аляксей Емяльяненка**.

Паводле яго інфармацыі, Мікалай Азараў разлічвае сустрэцца ў Мінску з А.Лукашэнкам і сваім беларускім калегам, прэм'ер-міністрам **Міхаілам Мясніковічам.** Дакладная праграма знаходжання высокага ўкраінскага госця ў Беларусі стане вядомая бліжэй да даты візіту.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ

## Будут ли открывать польские визы?

В связи с очередным дипломатическим скандалом именно этот вопрос больше всего волнует белорусов. Временный Поверенный в делах Польши **Витольд Юраш** успокоил всех.

*"Никаких изменений не произойдет. Визы будут. Это железно"*, — заявил Витольд Юраш, который в настоящее время возглавляет польскую дипмиссию.

АКТУАЛЬНО

## Виктор МАРГЕЛОВ: «Социальные продукты исчезнут месяца через два»

***Покупатели заметили: несмотря на то что курс доллара в последнее время падает, цены на продукты и другие товары растут. Мы попытались разобраться, почему это происходит.***

Действительно, в декабре прошлого года доллар стоил 8580 рублей, а в феврале — уже 8100. Даже после последнего скачка курса до 8230 рублей доллар все равно дешевле, чем в декабре. Казалось бы, ценники в магазинах должны измениться в сторону уменьшения. Но нет, зачастую цены растут не на рубль-два, а на несколько тысяч. Некоторые товары вообще исчезают с прилавков.

В одном из столичных супермаркетов мы проследили, как менялись ценники в течение одного месяца. Справедливости ради стоит отметить, что дорожали в цене не все товары, но очень многие. В том числе и импортные, цены на которые напрямую зависят от курса доллара.

| Наименование товара | Цена в январе | Цена в феврале |
|---|---|---|
| Батон (самый дешевый) | 3470 | 3820 |
| Яйцо 1 дес. | 10.320 | 11.750 |
| Филе кур. 1 кг | 36.200 | 40.550 |
| Молоко ультрапастериз. (3,2%) | 7900 | 8200 |
| Сыр российский, 50% жирн. | 44.030 | 49.400 |
| Хлебцы Dr.Korner | 7600 | 8700 |
| Бананы (1кг) | 10.230 | 14.100 |
| Перец болг. Испания (1 кг) | 42.000 | 48.700 |
| Огурцы св., Ждановичи (1 кг) | 27.500 | 30.250 |
| Туалет. бумага Zewa Deluxe (8 шт.) | 46.000 | 49.200 |

**За комментарием мы обратились к владельцу сети продовольственных магазинов Виктору МАРГЕЛОВУ.**

— Курс доллара действительно падает, но увеличивается стоимость сырья, растет цена на электроэнергию, потихонечку растут зарплаты, — пояснил специалист. — Все это отражается на ценниках в магазинах. Я сам был удивлен, когда увидел, как выросли в цене ткани могилевского предприятия "Моготекс". В декабре оптовая цена за 1 метр ткани была 10 тысяч рублей, а сейчас — уже 23 тысячи!

**— То есть рост более чем в 2 раза! Но электроэнергия настолько не подорожала, и зарплаты в два раза не выросли.**

— Идет уравнивание с российскими ценами. И этот процесс, думаю, не удастся предотвратить. Объективно цены в Беларуси приблизятся к российским. И расти будут не только цены на товары и продукты, но и на услуги. Недавно общался с московскими корреспондентами, и они были удивлены сказочными белорусскими ценами на стоматологические услуги, которые раз в 10 ниже, чем в Москве. Представляете, какой может быть рывок: сейчас цены на стоматологические услуги государство сдерживает, а если отпустит, то, думаю, они станут выше в пять раз.

**— Любопытно, а сохранится ли перечень социальных продуктов, цены на которые фиксированы?**

— Тенденция такова, что цены на продукты уже практически достигли своего максимума. Они будут расти постепенно, вместе с инфляцией. Но социальные продукты — дешевое молоко, за которое население бьется, говядина по 23 тысячи — на мой взгляд, исчезнут с прилавков. Потихонечку их будет становиться все меньше и меньше, а потом они и вовсе пропадут из нашей жизни. Думаю, случится это месяца через два.

**— Виктор Егорович, а почему дорожают импортные товары? Когда цены на них росли осенью, была неразбериха с валютой, предприниматели говорили, что закладывают в цену свои риски. Но сейчас-то ситуация с валютой вроде бы стабилизировалась? Или все же нет?**

— Сейчас возникла другая проблема: конкуренция среди импортеров чрезвычайно снизилась. В связи с прошлогодним обвалом около 60 процентов импортеров ушли с рынка. Поэтому на отдельные позиции мы и наблюдаем заоблачные цены: нет других поставщиков, которые бы завезли эти же товары на белорусский рынок и составили конкуренцию нынешним игрокам рынка.

**— То есть это элементарная непорядочность?**

— Я бы это назвал так: воспользовались ситуацией. У нас, к сожалению, не сформированы правила добросовестного поведения на рынке, не создана система прозрачной конкуренции. Потребитель бы только выиграл, если бы, например, поставщики французской косметики в открытом доступе конкурировали между собой. Но у нас экономика чрезвычайно сегментирована, монополизирована, рынок функционирует при отсутствии нормального информационного охвата. И возможна такая ситуация, когда кто-то и завозит на рынок, например, ту же французскую косметику по более низким ценам, но магазины элементарно этого не знают, и, следовательно, не могут купить эту продукцию.

**— А торговые надбавки сегодня высокие?**

— Не хочу говорить за всех, но что касается продовольственного сектора, то, поверьте, они чуть выше, чем когда были при тотальном государственном регулировании. Тогда торговля имела право на надбавки в 15—17 процентов, сейчас они составляют в среднем 20 процентов. Но это вынужденная мера, которая позволила поднять зарплаты в отрасли. Ведь зарплаты были крайне низкими, текучесть кадров была сумасшедшая. Продавцы в минских супермаркетах имели зарплату чуть больше миллиона. Сегодня средняя зарплата в сфере торговли по городу Минску составляет 3 миллиона 300 тысяч, у продавцов — 2—2,5 миллиона. Но это, как правило, достигается высокой производительностью труда.

**— В общем, перспективы нерадостные: цены будут расти.**

— Безусловно. Мы открыли границу, и управлять сегодня ценами — безнадежное дело.

На мой взгляд, государство прежде всего должно думать о том, как создавать условия, чтобы люди могли нормально зарабатывать, и как обеспечивать адресную помощь социально незащищенным слоям населения.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

